


ALLIANCE
524 St. Clarence Avenue
Toronto 4, Ont.
Матарыялы да друку, **ахвяры** й падпіску просім **прысылаць** на адрыс:
Dr. R. Zuk
54 Mary Street
Barrie, Ont. Tel. 728-7581
Advertising rate — $ 1.25 per column inch.

# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў МОНТРЭАЛІ

Сьвяткаваньне 49-ых угодкаў незалежнасьці Беларусі ў Монтрэалі адбылося ў суботу 1-га красавіка. Ладзіў яго аддзел ЗБК ў Монтрэалі, а фактычнымі арганізатарамі былі сп-ва Храноўскія й сп. сп. Янцэвіч М., Стасіловіч Ю., Попель П. й Астроўскі В. Монтрэальцы запрасілі на сваё сьвяткаваньне Беларусаў з Таронта й ваколіцаў, якія ахвотна адклікнуліся й прыехалі цэлай гурмай — з танцорамі й аркестрай.

Тарантонцы пабайваліся, што такую грамаду людзей — 24 асобы — цяжка будзе разьмясьціць нанач, але беларуская гасьціннасьць монтрэальскіх сяброў разьвеяла ўсякія сумлевы.

Урачыстая акадэмія адбылася ў Украінскім Доме Моладзі й пачалася крыху па 8-ай гадз. вечарам. Адчыніў акадэмію сп. М. Янцэвіч. Ад Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады із сьвятам 25-га Сакавіка вітала ўсіх прысутных старшыня Задзіночаньня Др. Раіса Жук, а ад Галоўнай Управы ЗБК вітаў заступнік старшыні яго сп. В. Касьцюкевіч. Вёў акадэмію сп. А. Храноўскі, які, пасьля прывітаньняў, даў слова для дакладу на тэму дня Д-ру В. Жуку.

Дакладчык прадставіў пабежна гісторыю Беларусі, зьвяртаючы ўвагу на тыя факты, якія сьветчылі, што галоўным зьместам нашай гісторыі было або змаганьне за незалежнасьць Беларусі, або змаганьне за ўтрыманьне яе. Так было ў Полацкім княстве й Смаленскім, так было й у Вялікім Княстве Літоўскім.

Галоўнай прычынай упадку й паняволеньня Беларусі, як казаў дакладчык, было тое, што вядучыя клясы перасталі цікавіцца лёсам нашага народу й краю й займаліся толькі эгаістычнымі справамі свайго дабрабыту. У пагоні за выгоднымі пасадамі й нажывай, яны адыйшлі ад свайго народу й спачатку польшчыліся, а пазьней рушчыліся.



**Выступае танцавальная група**

„Свая костка, а чужым мясам абрасла і ваняе..." — казаў Смаленскі кашталян Мялешка. Гэтым і запрапасьцілі лёс сваёй бацькаўшчыны, загубілі долю народу, здрадзілі яго.

Дакладчык падкрэсьліў, што ў гэтым факце ёсьць павучаючы прыклад для ўсіх Беларусаў — дома й на эміграцыі — на цяперашні час, асабліва для тых, што занядбоўваюць свае абавязкі нацыянальныя. Калі хто адсоўваецца ад беларускага жыцьця — гэтым самым ён прыносіць вялікую шкоду для сваёй бацькаўшчыны, для братоў і сёстраў, што паняволены бальшавікамі.

Далей Д-р Жук прадставіў беларускае адраджэньне, Акт 25-га Сакавіка й яго значэньне. Спыніўся над жахамі бальшавіцкага ярма й 2-ой Сусьветнай вайны. Беларускі вызвольны рух, казаў ён, ператрываў найцяжэйшыя выпрабаваньні й не занік. Наадварот, ён жыве й разрастаецца. У гэтым доказ, што рух гэты ніколі не загіне, пакуль не дасягнута будзе поўная незалежнасьць і сувэрэннасьць Беларусі.

Пасьля дакладу пашла мастацкая частка. Др. Раіса Жук прадэклямавала верш Янкі Купалы „Паўстань з народу...", Галінка Лашук сказала вершык Янкі Купалы „За свабоду...", сп-ня Т. Воран прадэклямавала верш Алеся Гаруна „Ты мой брат..."

У перамешку з дэклямацыямі чаргаваліся выступленьні Танцавальнага Гуртка з Таронта пад кіраўніцтвам сп. Б. Кіркі. Хоць крыху недаспаўшы й здарожаная — моладзь наша танцавала добра й згодна. Аркестра сп. Лісчонка з Ашавы йграла да танцаў стройна й жвава, хоць часамі, здавалася-б, крыху захутка. Танцавалі Крыжачок, Юрачку, Бульбу й закончылі традыцыйнай Лявоніхай. Акадэмія была закончаная адсьпяваньнем Беларускага Гімну.

Акадэмія прайшла ўдачна, толькі заля малая й цесная абніжала настрой. Людзей прышло нямала, усе 80 крэслаў былі заняты й людзі стаялі на калідоры. Як казалі арганізатары, была зарэнтаваная добрая заля із сцэнай, але перад самым сьвяткаваньнем гаспадары дому занялі яе для сваіх патрэбаў, а Беларусам далі цесную й малую. Факт гэты яшчэ раз прыпомніў беларускай калёніі ў Монтрэалі — найбольшай хіба з усіх беларускіх асяродкаў у Канадзе — што трэба купляць свой дом. Досыць хадзіць па чужых кутках.

У нядзелю раніцай (шкада што ў малым ліку) пашлі на Багаслужбу ў Украінскую Царкву Сьв. Пакровы. Служыў наш Архімандрыт а. Мікалай з а. Аляксандрам Костюком — настаяцелем царквы. А. Архімандрыт сказаў прыгожае казаньне, прысьвечанае незалежнасьці Беларусі. Пазьней а. Аляксандар у цёплых словах пазнаёміў сваіх парахвіян з БАПЦ, зь беларускай вызвольнай справай і прадставіў а. Архімандрыта Мікалая.

Тут-жа была адслужана паніхіда за душу вялікага ўкраінскага паэты — Тараса Шаўчэнкі.

Багаслужбай было закончанае сьвяткаваньне дня незалежнасьці Беларусі ў Монтрэалі.

**Ж.**

## ХРОНІКА

● **Сход Тарантонскага Аддзелу ЗБК** адбыўся ў нядзелю 16 красавіка. Сход вёў старшыня ЗБК сп. А. Грыцук, а сакратаром быў сп. К. Акула. На сходзе паўстала шырокая дыскусія аб тым, як узгодніць працу Тарантонскага Аддзелу з Галоўнай Управай ЗБК. Рэч у тым, што Таронта, як цэнтральны асяродак ЗБК, вымагае актыўнасьці Тарантонскага Аддзелу, якая датычыць ня толькі Тарантонскага Аддзелу, але й усяго ЗБК. З другога боку, Галоўнай Управе цяжка выконваць усе заданьні без дапамогі Тарантонскага Аддзелу. Бяручы ўсё гэта пад увагу, сход пастанавіў запрапанаваць чарговаму Зьезду ЗБК, каб прызнаў Управу Тарантонскага Аддзелу складовай часткай Галоўнай Управы ЗБК. У управу Аддзелу былі выбраны: сп. сп. М. Ганько, М. Кулеш, Б. Кірка, Я. Баран і Л. Карыба.

● ***У Беларускім Цэнтры Адпачынку Слуцак (БАЦС).*** **На** сходзе пайшчыкаў БАЦС дня 16 красавіка абмяркоўвалася справа маемаснага распарадку й карыстаньня з Цэнтру. На ўсе 103 паі прысутныя на сходзе прадстаўлялі 96. Адбылася доўгая рэчовая дыскусія. Хадзіла аб тое, каб задаволіць асабістыя й грамадзкія патрэбы. У выніку дыскусіі была прынята наступная пастанова:

1. Бераг ракі й возера, за выняткам узьбярэжжа, адведзенага пад узьбярэжныя котаджы, а таксама лес — належаць да агульнага карыстаньня.

2. Рэшта плошчы дзеліцца на тры часткі: адна частка над вадой для ўзьбярэжных котаджаў, другая частка для котаджаў далей ад вады, трэйцяя — найбольшая, з узьбярэжжам і вадой — для агульнага карыстаньня. Да гэтай трэйцяй часткі будзе належыць і рэзэрва на распрадажу пад котаджы. З гэтай трэйцяй часткі — грамадзкай могуць карыстаць усе пайшчыкі БЦАС, а таксама й іншыя Беларусы, але апошнія мусяць заплаціць устаноўленую аплату за свой пабыт.

3. Пляцы на котаджы (нармальныя лёты) будуць выдзяляцца за наступную цану: узьбярэжныя 5 паёў ($ 500.00), а далейшыя ад вады 3 паі ($ 300.00). Пайшчыкі зь меншым лікам паёў могуць карыстацца толькі з агульнай плошчы БЦАС, але яны таксама могуць атрымаць пляцы на котаджы, калі павялічаць лік паёў да вышэйпаданай вышыні.

4. **Тыя Беларусы, што захочуць стацца пайшчыкамі БЦАС, або й набыць пляцы над котаджы — могуць зрабіць гэта цяпер, пакуль ёсьць яшчэ рэзэрва плошчы,** калі заплацяць адпаведную колькасьць паёў. У гэтай справе трэба зьвяртацца на адрыс:

Mr. M. GANKO,
23 Temple Aven., Toronto 3. Ont..

5. Пастанова гэтая мае ўвайсьці ў статут БЦАС.

Наступную сходку пастаноўлена зрабіць на тэрыторыі БЦАС у нядзелю 7 травеня а гадз. каля 12-ай.

# ДА БЕЛАРУСКІХ ЖАНЧЫН КАНАДЫ

Як нам усім ведама, 1967 год ёсьць ЮБІЛЕЙНЫМ ГОДАМ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ. 6-га жніўня 1517 году выйшла ў сьвет першая друкаваная беларуская кніга, выдадзеная Доктарам Францішкам Скарынам з Полацку. Дзеля азнаямленьня зь гісторыяй пачаткаў беларускага друку й Др. Францішкам Скарынам, чытайце ў студзеньскім нумары „Беларуса" за 1967 год перадавы артыкул пад загалоўкам: 1967 ГОД — ЮБІЛЕЙНЫ ГОД БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ.

Каб адзначыць гэтак важную ў жыцьці беларускага народу гадавіну, Задзіночаньне Беларускіх Жанчын Канады на сваёй чарговай зборцы 9-га красавіка 1967 г. пастанавіла заснаваць ФОНД 450-тых УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ. Вышыня фонду была вызначана 500 даляраў. Гэтая сума выдасца вам аж да сьмеху нізкай. Мы з вамі пагаджаемся й верым, што пры вашай дапамозе й нашых супольных высілках пад канец гэтага году яна падвоіцца, а то й патроіцца. Усё будзе залежыць ад нас усіх разам і ад кажнае з нас паасобку. Вышыня, да якое гэты наш фонд вырасьце, будзе меркай нашага, жанчыны, нацыянальнага патэнцыялу, нашай адданасьці беларускай справе, нашай ахвоце й уменьню служэньня ёй. Вышыня фонду будзе азначаць шмат болей, як даляры.

А даляры, на што пойдуць зробляныя й сабраныя намі даляры? Яны пойдуць на беларускі друк, а менавіта на нашую газэту „Беларус" і на выданьне кнігі аб Беларусі на 50-ыя Угодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі Актам 25-га Сакавіка.

Як мы плянуем будаваць наш фонд? Мы думаем ладзіць зарабковыя імпрэзы ўсякага роду, як абеды, вечары, вечарыны, маёўкі, лятарэі, прадажа перакусак у часе розных грамадзкіх зборак у Беларускім Цэнтры, зьбіраньне ахвяр на падпісныя лісты. Першы крок быў зроблены роўна тыдзень пасьля пастановы. Найдалейшае падарожжа заўсёды пачынаецца зь першага, хай сабе й малога, кроку.

Вось-жа 16-га красавіка ў нядзелю пасьля Багаслужбы, а перад зборкай сяброў Тарантонскага Аддзелу ЗБК., сяброўкі Задзіночаньня зарганізавалі прадажу перакускі. Была рыба на халоднае з памідаровым сосам, канапкі зь мясам і кава. Уся ежа была прынесеная сяброўкамі, як ахвяра. Утаргавана 23 даляры. Значыць 16-га красавіка Фонд 450-ых Угодкаў Беларускага Друку быў вышынёй 23-х даляраў.

Зерне да зерня, жменька да жменькі ад кажнае з нас дасьць дзяжу пахучага хлеба. Гэты сьпечаны намі хлеб дасьць пажыву нашаму беларускаму друку, а нам пачуцьцё задаваленьня дый гордасьці з выкананьня нацыянальнага абавязку.

Дарагія Суродзічы, гуртуйма ўсе свае сілы й здольнасьці, усю любоў да наше Маткі Беларусі й дакажам, што мы — Яе Дочкі — ня выракліся свае Маткі й хочам ёй служыць.

**УВАГА:** Здабытыя на ФОНД 450-тых УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ грошы ад групаў або адзінак просім перасылаць на імя й адрыс Старшыні Задзіночаньня Беларускіх Жанчын Канады.

Dr. R. Zuk-Hryskievic
54 Mary St.,
Barrie, Ont.

Усе ахвяры будуць паквітаваныя, а ў канцы году пададзеныя ў газэце.

**Старшыня З.Б.Ж.К.**

### ЯШЧЭ АБ ДЭМАНСТРАЦЫЯХ СУПРАЦЬ КАСЫГІНА Ў АНГЛІІ

Мы атрымалі дадатковыя весткі наступнага зьместу: У часе ад 6-га да 13-га лютага прабываў у Англіі савецкі прэм'ер Аляксей Касыгін. У сувязі з гэтым прадстаўнікі эміграцыі паняволеных Саветамі народаў ладзілі дэманстрацыі й пратэсты ў Лёндане й іншых гарадох, каб зьвярнуць увагу ангельскага грамадзтва й ураду на той стан, у якім гэтыя народы знаходзяцца за зялезнай заслонай. І Беларусы бралі ўдзел у гэтых пратэстах.

З усіх выступленьняў найбольш годным увагі было інтэрвю ў ангельскай тэлевізіі БІБІСІ з прадстаўнікамі Беларусаў, Украінцаў, Летувісаў, Латышоў, Эстонцаў і Жыдоў. Інтэрвю адбылося ў панядзелак 6-га лютага, у дзень прыезду Касыгіна. Ад Беларусаў у тэлевізіі выступаў Старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі сп. Павал Навара. На пытаньне, што ён-бы сказаў Касыгіну, калі-б зь ім спаткаўся, сп. Навара адказаў, што ён зажадаў-бы ад яго сапраўднай свабоды для Беларусі й спыненьня русыфікатарскай палітыкі. Падобныя адказы давалі й іншыя прадстаўнікі падсавецкіх народаў.

Трэба адзначыць, што ані Ангельскі ўрад, ані паліцыя ня перашкаджалі прадстаўніком пакрыўджаных народаў выражаць свае пратэсты супраць нялюдзкай палітыкі Савецкага Саюзу. А самахвальства Касыгіна й ягоныя пустыя словы не зрабілі ніякага ўражаньня ў Англіі.

**Г.**

# ЧАМУ ЗДАРОЎЕ ЗУБОЎ?

15-га сакавіка быў дзень здароўя зубоў. Над пытаньнем, ці й чаму ёсьць важным здароўе зубоў, чаму мы ім цікавімся й яго вывучаем, ды як яго можам дасягнуць, мы цяпер коратка затрымаемся.

Зубны апарат мае некалькі заданьняў да выконваньня: праз раздрабляньне й жаваньне ежы ён спрычыняецца да траўленьня яе, ён ёсьць неабходным для правільнае мадуляцыі голасу ў гутарцы й сьпеве, ён ёсьць важным і з эстэтычнага пункту гледжаньня. А раз так — ён спрычыняецца да фізычнага й псыхічнага здароўя адзінкі.

Каб зубны апарат мог выконваць свае функцыі добра, ён сам мусіць быць у добрым здароўі. З благімі зубамі, ці бязь іх чалавек ня можа ані добра есьці, ані добра гаварыць, ані добра выглядаць, ані добра сябе пачуваць. Тая, ці іншая хвароба зубнога апарату можа сур'ёзна шкодзіць здароўю цэлага арганізму, ды ўрэшце можа праявіць сябе вельмі няпрыемна ў відзе болю зубоў.

Агульна бяручы, хваробы зубнога апарату можна дзяліць на дзьве групы: хвароба самых зубоў — гніцьцё (карыес), ды хвароба апарату, які трымае зубы ў ськівіцы — дзясны, косьць і азубная мэмбрана. Гэтая апошняя хвароба вядзе да хістаньня, а то й выпаданьня зубоў. Трэйцім станам, які перашкаджае нармальнаму функцыянаваньню зубнога апарату — станам, бо гэта не хвароба — ёсьць нерэгулярнасьць зубоў і ськівіцаў. Навука — дэнтыстыка шукае спосабаў ды вядзе змаганьне з хваробамі й ненармальнымі станамі зубнога апарату, каб забясьпечыць яму правільнае функцыянаваньне для агульнага здароўя чалавека.

**Ляпей не дапусьціць да хваробы, як яе лячыць.**

Ува ўсім цывілізаваным сьвеце цяпер практыкуюцца такія захады, як шчапеньне воспы, пастэрызаваньне малака, хлярынаваньне вады, ды іншыя патое, каб запабегчы розным хваробам. Ляпей не дапусьціць да эпідэміі воспы, як зь ёю змагацца. Ляпей не захварэць на тубэркулёз лёгкіх, а калі гэта станецца, лячыць яго ў зародку, покуль не нарабіў ён шмат непапраўных шкодаў. Гэты самы прынцып адносіцца й да хвароб зубнога апарату: ляпей не дапусьціць да іх, а калі яны ўжо зьявіліся, дык лячыць іх загадзя.

Навука шукае спосабаў, каб узьдзейнічаць на фармаваньне зубоў так, каб яны ўжо прарэзваліся болей сільнымі й адпорнымі на хваробы. Каб зубы маглі добра ўфармавацца, арганізм мусіць быць здаровым, правільна функцыянаваць, ды мець пад дастаткам патрэбнага „будаўлянага матар'ялу", як бялкі, вугляводы, тоўшчы, мінэралы, сярод якіх для зубоў найважнешым ёсьць кальцыюм (вапна) і вітаміны. Дзеля таго, што малочныя зубы пачынаюць тварыцца ўжо ў 6-тым тыдні жыцьця плоду, а мінэралізавацца ў чацьвертым яго месяцы, матка ў часе цяжы павінна дбаць пра сваё здароўе й правільна аджыўляцца. Сталыя зубы пачынаюць мінэралізавацца ў ськівіцы ў трэйцім месяцы, а канчаюць у 8-ым годзе жыцьця. Асабліва ў гэтым часе, калі ходзіць пра зубы, дзіцё павінна мець правільную дыету.

У першым годзе жыцьця грудное кармленьне ёсьць найздаравейшым. Ня толькі таму, што малако маткі ёсьць найпажыўнейшым, але й самое ссаньне грудзей, якое вымагае ад дзіцяці пэўнага высілку й намаганьня, зьяўляецца стымулам да разьвіцьця структураў твару, а асабліва ніжняй ськівіцы. Калі-ж дзеля якой-колечы прычыны натуральнае кармленьне мусіць быць заменяна штучным з бутэлькі, тады соска мусіць мець адпаведную форму (зуб-

# З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У МЭЛЬБУРНЕ

Ад даўжэйшага часу ў беларускай прэсе вельмі мала пісалася пра жыцьцё Беларусаў у Мэльбурне. Праўда, ня пульсавала яно поўным рытмам, але ўсё-ж існавала й, хоць рэдка, давала знаць аб сабе. Але й пра гэта ня друкавалася. Таму дзеля прыпаміну й хранікарскай патрэбы пішацца гэты кароткі нарыс зь дзейнасьці Беларусаў у Мэльбурне за апошні час.

У жыцьці Беларусаў Мэльбурна, як напэўна і ў жыцьці іншых беларускіх асяродкаў ня толькі ў Аўстраліі, можна вылучыць колькі пэрыядаў. Пасьля арганізацыйна-грамадзкіх уздымаў, пачаткава больш-менш у вадным, а пасьля ў двух — БНР-аўскім і БЦР-аўскім кірунках, прыйшоў час заняпаду актыўнасьці нутранага арганізаванага беларускага жыцьця. Дзейнымі засталіся адзінкі, як у вадным, гэтак і ў другім лягерах. Бальшыня, адно крытыкуючы тых, што нешта рабілі, адсоўвалася ад усякага ўдзелу ў грамадзкім жыцьці ды займалася галоўна ўладжваньнем собскага жыцьця. І тут пры нагодзе трэба адцеміць, што ў гэтай галіне яна можа пахваліцца паважнымі матар'яльнымі дасягненьнямі.

У гэтым трэйцім пэрыядзе дзейным адзінкам удалося зарганізаваць колькі ўдалых выступаў і ўдзелаў у міжнацыянальных і іншых імпрэзах Мэльбурна ды бліжэй пазнаёміць як афіцыйныя ўрадавыя аўстралійскія колы, гэтак і іншанацыянальныя групы зь беларускай праблематыкай. На грунце нутраным удалося зарганізаваць Школьны Камітэт і беларускую школку ў Ст. Альбанс і іншых пунктах, што былі дзейнымі праз колькі год. Таксама ўдалося зарганізаваць прыход Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Мэльбурне, а пасьля й другі — у Ст. Альбанс.

Абедзьвюм групам — БНР-аўскай і БЦР-аўскай, пасьля доўгіх гутарак, зборак і нарадаў, удалося знайсьці супольную мову й шляхам кампрамісаў паклікаць да дзейнасьці Беларускі Камітэт у Мэльбурне. Старшынём Камітэту бывае па чарзе што паўгоду прадстаўнік іншай групы. Камітэт штогоду ладзіць для ўсіх Беларусаў тры сьвяткаваньні: угодкі 25 Сакавіка, Слуцкага Паўстаньня й угодкі 2-га Кангрэсу. Апрача гэтага, Камітэт ладзіць 3-4 танцавальныя вечарыны, на якія зьбіраюцца ня толькі Беларусы, але й іхныя прыяцелі іншых нацыянальнасьцяў.

Пры Камітэце існуе пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча мяшаны хор. Ён запаўняе значную частку мастацкай праграмы ўгодкавых сьвяткаваньняў і ўводзіць сваймі песьнямі разнастайнасьць на танцавальных вечарынах. У ўзнагароду сябры хору карыстаюцца бясплатным уваходам на танцавальныя вечарыны. Даход зь вечарынаў ідзе ў касу Камітэту, які можа ўжо пахваліцца значнай сумай.

Гэты 4-ы пэрыяд існуе ўжо колькі год. Хаця й мае яшчэ шмат апанэнтаў і крытыкаў, трэба ўважаць, што пэрыяд гэты працягнецца даўжэй, бо ягоная тактычная лінія ў нашых абставінах адзіна правільная.

Сябром Камітэту, якія ў сваёй дзейнасьці маюць вельмі шмат цяжкасьцяў, а мала падтрыманьня з боку шырэйшага грамадзтва, трэба выразіць шчырую падзяку за іхную ахвярную дасюлешнюю працу й жадаць далейшага посьпеху. А Беларусам Мэльбурна трэба сугэраваць улучыцца больш актыўна ў грамадзкую дзейнасьць, каб адрабіць прынамся галоўныя занядбаньні з прычыны колькігадовых непаразуменьняў і непатрэбных сварак. Канкрэтна трэба як найхутчэй прыдбаць собскі грамадзкі цэнтр, дапамагчы ў зарганізаваньні моладзі й сталай беларускай школкі ды дапамагчы ўнармаваньню й узмацненьню рэлігійнага жыцьця праваслаўных Беларусаў Мэльбурну.

Што да рэлігійнага жыцьця, дык варта тут прыпомніць, што ў Мэльбурне ёсьць пяцёх праваслаўных сьвятароў Беларусаў пяці юрысдыкцыяў. Трох па аднаму ачольваюць прыходы: БАПЦарквы, Б.Р. Царквы і Расейскай Зарубежнай Царквы, а двух служыць у Сэрбскай і Расейскай ды ў Украінскай Цэрквах. І можна цешыцца, што беларускія сьвятары гэтак дзейныя й славяць Бога аж у гэтулькіх цэрквах. Але мы больш цешыліся-б, калі-б яны жылі згодна й супрацоўнічалі між сабою прынамся на ніве нацыянальна-беларускай. Які-ж быў-бы добры прыклад для ўсіх Беларусаў, калі-б яны прынамся прысутнічалі на беларускіх урачыстасьцях, прысьвечаных угодкам найважнейшых беларускіх гістарычных падзеяў. Адзін толькі а. Б. Камінскі прысутнічае заўсёды на ўспомненых урачыстасьцях. Ён-жа цірaз выражаў волю да супрацоўніцтва з усімі беларускімі сьвятарамі.

Ініцыятыву а. Камінскага застаецца адно прывітаць ды прасіць іншых в. дастойных Айцоў знайсьці дарогу да ўзаемнага між сабою супрацоўніцтва і ўсімі Беларусамі Мэльбурну. Я перакананы, што гэта было-б з карысьцяй для ўсіх.

**М. Н.**

# САКАВІКОВЫЯ УГОДКІ Ў НЬЮ ДЖЭРЗІ

Сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў Акту 25 Сакавіка было зладжанае Аддзелам БАЗА ў Нью Джэрзі ў нядзелю 2-га красавіка. Урачыстасьць пачалася Малебнам, які быў адслужаны мітр. прат. а. Сьцяпанам Войтэнкам у БАПЦаркве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку.

А гадзіне 3-й папаўдні адбылася ўрачыстая Акадэмія ў „Лібэрты Бал Рум" у Саўт Рывэры. Акадэмія пачалася амэрыканскім гімнам, які выканала на піяніне сп-чня Э. Гутырчык. Тады старшыня Аддзелу БАЗА С. Гутырчык прывітаў прысутных і перадаў далейшае вядзеньне праграмы культурна-асьветнаму рэфэрэнту Аддзелу БАЗА. В. Стому.

Добра апрацаваны рэфэрат аб 25-ым Сакавіку ў ангельскай мове прачытаў будучы адвакат, а цяперака студэнт права Расьціслаў Войтэнка, а гутарку на тэму дня ў беларускай мове правёў В. Стома. Сп-чня А. Стома прачытала праклямацыі губэрнатара штату й мэраў суседніх гарадоў пра абвешчаньне дня 25 сакавіка Днём Незалежнасьці Беларусі, а таксама прывітаньні ад сэнатараў і кангрэсмэнаў.

У мастацкай частцы сп-чня Э. Гутырчык памастацку, як на ейны век і невялікі стаж, выканала пры ўласным акампаньяманьце народную песьню „Ручнічок". Малы Міхась Швэд прадэклямаваў верш „25 Сакавік", а крыху старэйшы за яго Мікола Швэд выканаў на акардыёне беларускія народныя танцы „Лявоніху", „Мікіту" й „Крыжачок". Стома прадэклямаваў верш Я. Купалы „Наша песьня".

Урачыстасьць закончылася прапяяньнем беларускага гімну. **В. С.**

# ЮБІЛЕЙНЫ ВЕЧАР Д-РУ С. СТАНКЕВІЧУ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ

Стараньнем Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, у нядзелю 16 красавіка ў прыгожа адноўленай залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў Гайлэнд Парку (прадмесьце Нью Брансьвіку) быў наладжаны рэфэрат д-ра Ст. Станкевіча пра літаратурную творчасьць выдатнага беларускага падсавецкага пісьменьніка Уладзімера Караткевіча. Гутарку пра гэтага пісьменьніка д-р Станкевіч папярэдзіў агульным аглядам сучаснай беларускай падсавецкай літаратуры. Рэфэрат быў на вельмі высокім узроўні ды выклікаў вялікае зацікаўленьне ў прысутных, бо аб некаторых фактах яны пачулі ўпяршыню.

Пасьля рэфэрату арганізатары вечара наладзілі неспадзеўку для д-ра Ст. Станкевіча: банкет-бяседу дзеля адзначаньня 40-ых угодкаў ягонае палітычна-грамадзкае й навукова-літаратурнае дзейнасьці.

Пры сталох, на якіх было што выпіць і закусіць, было сказана шмат прамоваў. У іх была асьветленая ўсебакова нацыянальная дзейнасьць юбіляра за 40 год. Прамоўцы ўспаміналі яго, як пэдагога, адміністратара, журналістага, літаратара-навукоўца, палітычнага дзеяча й папросту як чалавека Беларуса, які, часамі наражаючы жыцьцё, бараніў беларускія нацыянальныя інтарэсы й людзей у часе нямецкае акупацыі. Прамовы чаргаваліся ізь сьпевамі „Сто год" і „Многае лета". Трэба дадаць, што амаль усе прамоўцы адзначалі ролю, якую ў жыцьці юбіляра адыграла ягоная верная тварышка, а часамі можа й дарадніца Спадарыня Зінаіда Станкевіч. Прамаўлялі: Віцэ-Прэзыдэнт Рады БНР А. Стагановіч, старшыня Царкоўнае Рады П. Кажура, старшыня БАЗА ў Нью Джэрзі С. Гутырчык, сп. Ф. Родзька, сп. Б. Даніловіч, сп. В. Русак, д-р Ул. Бакуновіч і В. Стома.



**Прамаўляе юбіляр. Побач зьлева — сп. А. Стагановіч, справа — сп. С. Гутырчык**

На заканчэньне ўрачыстасьці старшыня Аддзелу БАЗА перадаў д-ру Ст. Станкевічу скромны падарак-памятку, а прысутныя сабралі з гэтае нагоды 50 дал. на Выдавецкі Фонд рэдагаванай юбілярам газэты „Беларус".

**Васіль Стома**

### ПАДЗЯКА

Гэтай дарогай Управа Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі складае шчырую падзяку старшыні Жаноцкае Сэкцыі БАЗА сп-ні Тамары Януш і сп-ні Стэфаніі Каранеўскай за самаахвярную працу пры наладжаньні банкету ў чэсьць д-ра С. Станкевіча.

### ПРЫЯЦЕЛЯМ І СУПРАЦОЎНІКАМ У НЬЮ БРАНСЬВІКУ МАЁ ШЧЫРАЕ ДЗЯКУЙ!

Узапраўды вялікую прыемнасьць зрабілі для мяне мае прыяцелі й бліжэйшыя супрацоўнікі зь Нью Брансьвіку, наладзіўшы банкет-бяседу ў сувязі із 40-гадовым юбілеем маёй нацыянальнай грамадзка-палітычнай і літаратурна - навуковай дзейнасьці.

У сувязі з гэтым складаю гэтай дарогай маю шчырую падзяку Управе Аддзелу БАЗА и Нью Джэрзі на чале із старшынём Сяргеем Гутырчыкам, стараньнем якой быў зарганізаваны юбілейны вечар. Вельмі шчыра дзякую сп. сп. А. Стагановічу, С. Гутырчыку, П. Кажуры, Ф. Родзьку, Б. Даніловічу, В. Русаку, Ул. Бакуновічу й В. Стому за іхныя гарачыя віншавальныя прамовы ў часе бяседы. Асаблівая падзяка сп-ні Тамары Януш і сп-ні Стэфаніі Каранеўскай за прыгатаваньне добрай вячэры.

Шчыра дзякую ўсім тым Суродзічам, што ўшанавалі сваёй прысутнасьцяй гэтую бяседу.

Асабліва было мне прыемна, што прысутныя на вечары, ведаючы фінансавыя клопаты ў выдаваньні рэдагаванай мною газэты „Беларус", на прапанову сп. С. Гутырчыка злажылі 50 дал. на выдавецкі фонд газэты. Шчырае ім беларускае дзякуй! **Ст. Станкевіч**

ны лекар вам параіць, якую), ды вельмі маленькую дзірачку. Дзіцё павінна працаваць, каб атрымаць пажыву. Пасьля груднога кармленьня дзеці звычайна смачна сьпяць, бо яны ссучы натомяцца.

У пазьнейшым веку штодзённая дыета мусіць уключаць наступнае: Малако — найлепшая крыніца кальцыюм, фрукты — між імі адзін аранж, яго сок, або сок памідаровы, бульба й гародніна — жоўтая й зялёная, хлеб, масла ці маргарына, яйкі й сыр — са тры разы на тыдзень і для ўсіх маладых, што яшчэ растуць, штодзённа вітаміна Д (400 І. Ю.).

Дзецям ляпей зусім не даваць клейкае й салодкае ежы, як цукеркі, мармаляды, салодкія цесты, гума да жаваньня й „софт дрынкс". Яны апрача таго, што маюць нізкую пажыўную вартасьць і забіваюць апэтыт да іншае ежы, зьяўляюцца прычынай гніцьця зубоў.

**Гніцьцё зубоў.** Як яно адбываецца? Каб зуб пачаў гніць, патрэбны у роце цукяр, пэўнага роду бактэрыі, ды — кажучы проста — месца зачэпкі на зубе. Пад дзеяньнем бактэрыяў цукярператвараецца ў кісьлю, кісьля дэмінэралізуе (распускае мінэралы) цьвярдую тканку зуба. Застаецца мяккая арганічная матрыца, якую раскладае (гноіць) другі род бактэрыяў. І так робіцца дзюрка ў зубе. Аднак каб цукяр ператварыўся ў кісьлю, каб кісьля распусьціла мінэралы ў зубе, патрэбны ёсьць час, патрэбнае месца стагнацыі, як мы назвалі, месца зачэпкі на зубе. Гэтыя месцы знаходзяцца звычайна між зубамі, у разорках ды раўкох, скрозь там, дзе не даходзіць натуральная (пры жаваньні) й штучная (шчотачкай) чыстка. У гэтых вось месцах поўных усякіх асадкаў і затрымоўваецца распушчаны цукяр, там ён мае час ператварыцца ў кісьлю, якая ў сваю чаргу мае час на нішчэньне цьвёрдае тканкі, там ёсьць досыць іншых бактэрыяў, якія ўсьлед гнояць мяккую тканку зуба.

Гэты зьнішчальны працэс мог-бы быць да пэўнай меры перарваны, каб беспасярэдна пасьля ежы рот і зубы былі дакладна пачышчаны й спаласканы. Значная частка цукру магла-бы быць з роту ўсунатай і не дала-б пачатку зьнішчальнаму працэсу. Варта адцеміць, што чым болей спажываецца цукру, тым болей знаходзіцца ў роце кісьлятворчых бактэрыяў, тым болей у чалавека гніюць зубы.

**Пытаньне:** Суседняе дзіцё есьць куды болей цукеркаў, як ваша, а мае лепшыя зубы.

**Адказ:** Магчыма суседняе дзіцё мае мацнейшыя, болей адпорныя на захворваньне зубы.

**Пытаньне:** Ці магчыма ўзмоцніць зубы пасьля таго, як яны скончылі мінэралізацыю й прарваліся ў рот.

**Адказ:** Магчымасьцяй гэткай ёсьць флюарыдацыя.

Праз пакрываньне чыстае й сухое эмаліі зуба флюарыдам, хімічныя часткі (ёны) флюару пранікаюць у структуру зубной эмаліі й робяць яе цьвярдзейшай і болей адпорнай на захворваньне. Падобны эфэкт мае й рэгулярнае чышчэньне зубоў пастай з флюарыдам. Найболей эфэктыўным і эканамічным аднак мэтадам ёсьць спажываньне вады, у якой натуральна знаходзіцца або штучна ёсьць даданы (адна частка на мільён частак вады) флюарыд.

**Лячэньне зубоў.** Папсуты зуб павінен быць як мага раней залечаны. Гэта таму, што ў пазьнейшай стадыі яго можа быць немагчыма адрэстаўраваць, ён можа спрычыніць боль, можа весьці да інфэкцыі акружаючых яго структураў, а гэтым самым пагражаць здароўю ўсяго арганізму, ды напасьледак, зубная гніль ёсьць заразьлівай хваробай і пераносіцца з аднага зуба на іншы, быццам тая гнілая бульбіна ў мяшку гноіць іншыя.

Дзеля таго рэгулярнае наведваньне зубнога лекара кажныя 6 месяцаў, пачынаючы з трэйцяга году жыцьця, ёсьць, пасьля правільнае дыеты, рэгулярнага чышчэньня зубоў пасьля ежы, таксама неабходным дзеля ўтрыманьня здароўя зубоў.

**Малочныя зубы.** Чаму так рана трэба пачынаць наведваць зубнога лекара? Пашто лячыць малочныя зубы, калі яны й так пасьля выпадаюць?

Немалы працэнт дзяцей у веку трох гадоў мае ўжо загніўшыя зубы. Трэба іх залечваць покі дзіцё пазнае боль зуба, бо тады, апрача ўжо ўспомненых камплікацыяў, яно заўсёды будзе баяцца зубнога лекара. Урэшце, малочныя зубы, калі натура нам іх дала, яна дала ім і заданьні да выконваньня. Ад выконваньня гэтых заданьняў залежыць будучы стан сталага ўзубленьня, ды правільнасьць формы твару.

Апрача тых самых заданьняў, што мае сталае ўзубленьне (жаваньне, мадуляцыя голасу, эстэтыка), малочныя зубы ўтрымоўваюць месца для сталых, ды стымулююць разьвіцьцё й рост ськівіцаў. Калі форма малочных зубоў зьнішчаная гнільлю, яны мусяць быць рана вырваныімі, даўжыня зубнога паўкруга скарачаецца й зьменшваецца стымул да росту ськівіцы. У кансэквэнцыі сталыя зубы ня маюць месца рэгулярна прарэзацца й расьці. У рэзультаце выходзяць „крывыя зубы" й могуць быць „крывыя тва-ры".

**У заключэньні** — „Што-ж рабіць, каб здаровым быць?

1. Правільна аджыўляцца ды ўнікаць цукеркаў і іншых клейкіх і салодкіх рэчаў.

2. Чысьціць зубы беспасярэдня пасьля ежы.

3. Карыстаць зь дзеяньня флюарыду.

4. Наведваць зубнога лекара з раньніх год і рэгулярна.

„Кракадыль і той рот свой птушкам разяўляе, чысьціць зубы дазваляе".

**Др. Р. Жук-Грышкевіч**

# УГОДКІ 25 САКАВІКА У ЛЁС АНДЖЭЛЕС

Сьвяткаваньне 49-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адбылося ў Лёс Анджэлес 19 сакавіка ў залі Летувіскага Дому. Сьвяткавальную праграму наладзілі супольна БАЗА й БККА.

Урачыстую Акадэмію адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА ў Каліфорніі інж. Язэп Бруцкі, вітаючы немалую грамаду прысутных Беларусаў і гасьцей ня толькі зь Лёс Анджэлес, але й із суседніх гарадоў. Пасьля амэрыканскага гімну й малітвы былі прачытаныя прывітаньні паангельску й пабеларуску. Рэфэрат аб значаньні Акту 2' Сакавіка й ягонай гістарычнай ролі прачытаў інж. Я. Бруцкі.

У самадзейнай мастацкай частцы праграмы выступалі дзеці Беларускай сыботняй школы пад кіраўніцтвам сп. А. Вініцкага. Аня Вініцкая сказала верш Я. Коласа „Родны край", а Язэя Найдзюк — верш А. Гаруна „Маці Беларусі". Люся Вініцкая выступіла із словамі песьні „Не пагаснуць зоркі ў небе" Я. Купалы. Наймалодшыя вучні Карнэля Найдзюк сказала верш „25 Сакавіка", а Тонік Вініцкі — верш „Я ўжо хлопчык вялікі".

Выступленьні дзяцей пераплята-ліся дэклямацыямі дарослых. Сп-ня Каця Вініцкая вельмі эмацыянальна прадэклямавала верш Я. Купалы „Ужо днее". Сп-ня Вера Вуіч усхвалявала слухачоў сваім арыгінальным уступам да чула выкананага ёй урыўку з паэмы Я. Коласа „Новая Зямля" — „Вечарамі". Ейная дэклямацыя была мілай лірычнай экскурсіяй на бацькаўшчыну. Таксама моцна расчуліў і верш Цёткі „З чужыны" ў тым-жа выкананьні сп-ні Веры Вуіч. Дэклямацыі скончыліся вершам Я. Купалы „Роднае слова", прадэклямаваным сп. Ч. Найдзюком.

Некалькі музычных твораў выканала на акардыёне Нюся Стус. Тады быў прачытаны заклік да падтрыманьня газэты „Беларус". Урачыстая Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

Падчас супольнага абеду сьвяточны настрой падмацоўваўся беларускімі песьнямі з кружэлак і танцамі дзяцей. Некаторыя зь іх былі ў нацыянальных вопратках. У часе абеду была праведзеная сп. Я. Бруцкім зборка грошай на газэту „Беларус". Сьвяткаваньне было некаторай нагодай для новых знаёмстваў. Узвышаны настрой удзельнікаў найлепш адказваў значаньню Дня 25 Сакавіка. Адчувалася сіла духа й любасьць да свайго роднага.

Прыслалі з нагоды сьвяткаваньня свае прывітаньні: кангрэсмэны Алэн Сьміт, Гленард Ліпскомб, Джордж Браўн, Галоўная Управа БАЗА, Аб'яднаны Беларуска-Амэрыканскі Сьвяткавальны Камітэт у Нью Ёрку, Аддзел БАЗА ў Дэтройце й прадстаўнік БККА ў Калярадо.

**Н.**

